


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 верасня 2002 года
№ 39 (388)
Выходзіць па пятніцах




**Навіны рэгіёна**

## Гаворыць радыё...

АШМЯНЫ. Больш за год у Ашмянах не працавала мясцовае радыё з-за адсутнасці спецыяліста.
Цяпер перадачы вядзе галоўны рэдактар раённага радыё Ганна Давідовіч. Да гэтага яна працавала спецыялістам аддзела інфармацыі райвыканкома.
Перадачы выходзяць па панядзелках і серадах а палове дзесятай гадзіны вечара. Доўжацца яны 20 хвілін.

**Ірына РАБУШКА.**

## Пабілі Адама Мальдзіса

МІНСК. Наш зямляк, вядомы беларускі літаратуразнавец, доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс быў збіты ў панядзелак позна вечарам каля свайго дома.
Невядомы зламыснік напаў на яго каля 22.30 у дзесяці метрах ад пад'езда і стукнуў цяжкім тупым прадметам па галаве. Злачынец украў яго партфель з вельмі важнай перапіскай, а таксама пакет з кнігамі і знік.

Фота IREX/ProMedia.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Будслаў і Свір заўважылі

МЯДЗЕЛ. «Белпошта» выпусціла камплект паштовак з лепшымі архітэктурнымі збудаваннямі і памятнымі мясцінамі Беларусі. Трапілі на паштоўкі і касцёлы ў Будславе і Свіры. Здымкі рабіў вядомы фатограф са «Звязды» Анатоль Кляшчук. Тыраж паштовак – 2000 экземпляраў. Іх можна ўжо набыць у аддзяленнях сувязі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Штучная нырка

МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай гарадской бальніцы пачалася апрабацыя абсталявання ў новым аддзяленні ачышчэння нырак. Цяпер тут знаходзяцца чатыры пацыенты. Лячыцца могуць хворыя з усяго рэгіёна. Зараз удакладняюцца звесткі тых, хто мае патрэбу ў ачышчэнні нырак.

**Ірына РАБУШКА.**

## Гары-гары ясна!

ВАЛОЖЫН. Учора, нарэшце, у 12 дамах па вуліцы Палявой па-сапраўднаму заззяла "лямпачка Ільіча".
Да гэтага амаль чатыры гады святло ў дамы падавалася па часовай схеме электразабеспячэння, напружанне не адпавядала норме: лямпачкі гарэлі цьмяна, не працавала бытавая тэхніка.

**Ірына РАБУШКА.**

## Дырэктар рынку арыштаваны

МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы чацвер затрыманы і арыштаваны дырэктар калгаснага рынку Аляксей Увараў.
Аперацыю праводзіў аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Мінаблвыканкома. Расследаванне вядзецца абласнымі праваахоўнымі органамі.
Па папярэдніх дадзеных, крымінальная справа ўзбуджана за хабарніцтва.



Архіў «РГ».

**Ірына РАБУШКА.** Аляксей Увараў.

**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 28 верасня

**Мінск**
1°C (уначы)
12°C (удзень)



**Вільня**
1°C (уначы)
13°C (удзень)



Нядзеля, 29 верасня

**Мінск**
2°C (уначы)
12°C (удзень)



**Вільня**
5°C (уначы)
13°C (удзень)



# Свята Агінскага ў Залессі

**СМАРГОНЬ. У нядзелю ў Залессі прайшло свята, прысвечанае 237-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага.**

З 1990 года кожную восень у залескай сядзібе наладжваецца свята. Аддаць даніну павагі Міхалу Агінскаму прыязджаюць яго нашчадкі з Англіі, а таксама госці з Гузава, Вільні, Варшавы, Мінска, Віцебска, Міра, Маладзечна, Смаргоні, Вілейкі і наваколля.

### Прэлюдыя свята

Госці з'язджаліся з усёй Беларусі, з рэгістрацыі стала вядома, што мінчан і віляйчан прыехала прыкметна больш. Свята пачыналася а 12-й гадзіне, але адзіны ранішні цягнік у напрамку Гудагая не пакідаў асаблівага выбару, каб паспець да пачатку канцэрта. Усіх тых, хто наведаў сядзібу, сустракалі ветлівыя мінскія дзяўчаты Ірына і Святлана, якія згадзіліся дапамагчы арганізатарам. Яны прапаноўвалі зарэгістравацца і набыць па сімвалічнай цане (237 рублёў) брашуру з тэкстамі песень, каб потым можна было спяваць разам з выканаўцамі.

Да пачатку мерапрыемства госці прагульваліся па сядзібе, маглі пабачыць капліцку, млын, камяні, альтанку, палац. Ужо была наладжана выстаўка работ залескай школьніцы Людмілы Рогач, пейзажы якой прысвечаныя сядзібе Агінскага. А ў палацы дэманстраваліся дзіцячыя малюнкі майстэрні "Апалонік" Залескай школы.

### Бельведэр у «Паўночных Афінах»

Залессе сучаснікі называюць "Паўночнымі Афінамі". Тут збіраліся многія сябры і аднадумцы Міхала Агінскага, абмяркоўваліся грамадскія і палітычныя справы, гучалі новыя музычныя і літаратурныя творы.

Песні, выкананыя на свяце дзіцячай студыяй "Альтанка", гуртом фальклорнай музыкі этнашколы №6 з Вілейкі, гасцямі, прысвячаліся Агінскаму. Гульня-экскурсія "Пошукі Бельведэра" пазнаёміла гасцей з сядзібай і гістарычнымі помнікамі. Усе жадаючыя мелі магчымасць паўдзельнічаць у яшчэ адной гульні — "Паўночна-Афінскае кола". Выцягвалі канверт, дзе быў названы персанаж, якога ўдзельнік павінен будзе сыграць на сцэне праз гадзіну падрыхтоўкі. Прадстаўнікі розных гарадоў былі задзейнічаны ў даволі цікавай забаве. Госці спрабавалі сябе ў акцёрскім майстэрстве, кожнае выступленне заканчвалася песняй.

Напрыканцы прагучаў развітальны спеў "Залессе", а арганізатар мерапрыемства, старшы супрацоўнік музея імя Агінскага Сяргей Верамейчык запрасіў усіх наведаць свята на лета.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Архітэктар-рэстаўратар Сяргей Верамейчык у 1989 годзе прыехаў у Залессе. Ужо больш за дзесяць год аддае сябе сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Альтанка пабудаваная была ў гонар Амеліі, першай дачкі Міхала Агінскага. У 1939 годзе альтанку зруйнавалі, па фотаздымках рэстаўрыравана нядаўна. Сяргей Верамейчык шукае спонсараў, каб можна было атынкаваць гістарычную пабудову і паказаць, якая гэта прыгажосць.**

## Гасцей стала больш

Арганізатар свята Сяргей Верамейчык:

- На сённяшнім свяце адбылося адраджэнне гульні "Паўночна-Афінскі пасьянс". Яна праводзілася ў першыя гады, але потым знікла. Галоўным вядучым з'яўляецца афіцэр Паўловіч (Юрый Рурак), без якога наўрад ці атрымалася б што. Прыемна, што людзей з кожным годам становіцца больш.

Мінскі госць, удзельнік мерапрыемства пан Скіргайла Палянецкі:

- З 93-га года пачаў прыязджаць на гэтыя фэсты і яшчэ ніводнага не прапусціў. Апошнія тры гады выступаю ў гэтай ролі. Летась я адзін іграў на дудзе, сёння далучыўся да мяне спадчынны дудар Алесь Лось. Дарэчы, яго бацька – адзін з першых, хто пачаў адраджаць дуды ў Літве. Для мяне вобраз Агінскага – узор шляхецтва, для іншых – узор плённай, натхнёнай творчасці.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ВЫСТАЎКІ

## Настаўнік-мастак

**АШМЯНЫ. У філіяле нацыянальнага мастацкага музея ў Гальшанах мадады мастак-аматар Сяргей Савасцінкевіч адкрыў сваю выстаўку.**

Больш за дваццаць мініяцюр выкананы алоўкам і каля двух дзесяткаў – алеем. Працуе мастак настаўнікам французскай мовы ў вёсцы Мураваная Ашмянка. Арганізатарам і спонсарам выстаўкі стаў інфармацыйна-тэхнічны цэнтр "Рэгіён".

**Ірына РАБУШКА.**

## Дзеткі, як кветкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс пад назвай "Кветкі восені", арганізаваны цэнтрам пазашкольнай работы (ЦПР) і цэнтральнай гарадской бібліятэкай імя Максіма Багдановіча, ладзіўся ў мінулую сераду.**

Удзельнічалі вучні гарадскіх школ, наведвальнікі гурткоў "Юны натураліст" і "Юныя кветкаводы" ЦПР.

Фантазіі дзяцей, памножанай на багацце кветак, здавалася, не было межаў: яркія фарбы лета, сумныя матывы восені, трывожныя тэндэнцыі ў экалогіі – усё гэта знайшло адлюстраванне ў букетах і кветкавых кампазіцыях. Лепшымі названы стваральнікі і знатакі прыгажосці з СШ №1 (кампазіцыя "Экалагічны святлафор планеты"), з СШ №9 і гуртка "Юныя кветкаводы" з політэхнічнай вячэрняй зменнай агульнаадукацыйнай школы. Пераможцы адзначаныя тэматычнымі энцыклапедыямі, прэзентаванымі раённай інспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а ўсе без выключэння ўдзельнікі атрымалі яшчэ пакецікі з насеннем разнастайных кветак.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАРТРЭТ

## Гісторык, мастак і прэзідэнт

**СМАРГОНЬ. Да свята Агінскага адзінаццаціласніца Залескай сярэдняй школы Людміла Рогач падрыхтавала выстаўку ўласных твораў, прысвечаных сядзібе кампазітара.**

- Давайце ўявім дом. У кожнага ён будзе родным. Увіце, што гэты дом – наша краіна. А ў кожным доме ёсць падмурак, які павінен быць трывалым. Мы можам заўсёды ўмацоўваць падмурак. Мая выстаўка – уклад у развіццё Залесся. Можа, мае пейзажы дапамогуць камусьці больш даведацца пра нашае мястэчка.

Людміла сказала, што малюе для душы. На самой справе марыць стаць гісторыкам, а пасля школы збіраецца паступаць ці ў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, ці ў БДУ. Гэта яе першая выстаўка твораў.

Сёлета ў адзін дзень – 28 красавіка – у Людмілы здарыліся ажно тры важныя падзеі: яна стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу "Нам засталася спадчына", яе абралі прэзідэнтам Залескай школы, і ў гэты дзень адзначалі 200 год з таго часу, як упершыню Міхал Агінскі наведаў Залессе.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Людміла Рогач марыць стаць гісторыкам, а малюе і піша вершы для душы.**

"Беларускі зялёны крыж" у Мінску праводзіў конкурс "Нам засталася спадчына", дзе трэба было апісаць старажытную мясціну, якая валодае гістарычнай і культурнай каштоўнасцю. Удзельнікі стварылі план рэстаўрацыі гістарычнага мястэчка. Людміла для працы выбрала сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага. І стала другой, хаця канкурэнтаў хапала.

Тады ж у Залескай сярэдняй школе праходзілі выбары прэзідэнта школы. З вялікім адрывам Людміла перамагла. Назначыла кабінет міністраў, праводзіць лінейкі і актыўна ўдзельнічае ў праўядзенні дзён самакіравання. У палітыку ў далейшым ісці не збіраецца, бо лічыць, што гэта брудная справа.

Увесь вольны час Людміла аддае сядзібе Агінскага: дапамагае прыбіраць, рыхтавацца да правядзення святаў. А таксама любіць маляваць і пісаць вершы. Людміле падабаецца восень, для творчасці знаходзіць нейкае асаблівае натхненне.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ТЭАТР

## Трынаццаты сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 кастрычніка 13-ы тэатральны сезон адкрые Мінскі тэатр лялек "Батлейка".**

Гледачы ўбачаць прэм'ерны спектакль "Тыграня Петрык" рэжысёра-пастаноўшчыка Уладзіміра Грамовіча. Пачатак спектакля а 12-й гадзіне.

**Ірына РАБУШКА.**

### Рэпертуар Мінскага абласнога драматычнага тэатра на кастрычнік



**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 1 аўторак 14.00 | **"Буслік супраць Кадука"** (музычная казка-трылер) Георгій Харчук |
| 20 нядзеля 12.00 | **"Чарадзейства ў краіне Оз"** (казка-канцэрт) Галіна Булыка |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| 3 чацвер 19.00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| 5 субота 17.00 | **"Характары"** (лірычная камедыя) Васіль Шукшын |
| 10 чацвер 19.00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| 13 нядзеля 17.00<br>15 аўторак 19.00 | **"Двое на арэлях"** (балада пра каханне ў 2-х дзеях) Уільям Гібсан |
| 31 чацвер 19.00 | **"На другі дзень Сёмухі"** (сцэнічны жарт у трох дзеях) Юрый Вута |
| 16 серада 19.00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер"** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| 18 пятніца 19.00 | **"Без мяне мяне ажанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Кроц |
| 19 субота 17.00 | **"КІМ"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |

■ СВЯТЫ

## Лазовыя карункі

**ВІЛЕЙКА. 21 верасня на плошчы Леніна прайшло другое абласное свята-конкурс "Лазовыя карункі".**

Каля 30 удзельнікаў прыехала ў Вілейку. Журы на чале са старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам вызначыла адразу шэсць намінацый, і прызы атрымалі ўсе ўдзельнікі. З нашага рэгёна вызначыліся Аляксандр Кацура і Юрый Разанаў з Валожыншчыны, Генадзь Унукаў з Маладзечанскага раёна, Сяргей Чапурка з Мядзельшчыны, Сяргей Трыдзінскі, Васіль Шушкевіч і Аляксандр Буры з Вілейшчыны. Майстры лазапляцення выставілі сваю прадукцыю на продаж. І амаль усё прадалі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



**Майстры лазапляцення наладзілі гандаль сваімі вырабамі.** Фота Алега ГАРУНОВІЧА.

■ БУДОЎЛІ

## Палац культуры не адкрыюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Палац культуры павінныя былі адкрыць 1 кастрычніка. Але адкрыццё адкладзена.**

Цяпер на будаўніцтве працуе 700-800 чалавек штодзённа. Па словах генеральнага падрадчыка Аблсельбуда – генеральнага дырэктара Мінаблсельбуда Віктара Васілевіча, – гаворка ідзе аб тыдні-двух, каб завяршыць будоўлю. Але адна справа закончыць будаўнічыя работы, іншая – абсталяваць Палац культуры, каб стварыць належныя умовы для калектыву са 140 чалавек.

Дырэктар Палаца культуры Святлана Грыцкевіч сказала, што адкрыццё будзе 17 кастрычніка.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ГІСТОРЫЯ

# Папера мацней за браню. Нават у час вайны

**Роўна 60 год таму, восенню 1942-га, хутаранін Мікола Журыха з-пад Куранца мог пазбавіцца жыцця. Але... атрымаў "ахоўную" грамату ад нямецкага афіцэра. Гісторыя ж пачалася яшчэ ў 1914 годзе.**

Неяк позняй восенню 1942 года прыбягае з Кузьмічоў знаёмая кабета. І з яе вуснаў "пад вялікім сакрэтам" данеслася:

— Божа літасцівы! Во, у нас Міколу Журыху чуць не забілі... Хто ж – паліцаі, каб іх немач... басякоў-п'янтосаў... Яны лупцуюць бедачыну – немец назірае. А тут Мікола як закрычыць па-нямецку: "У мяне папір! Папір!". Немец толькі зіркнуў у той папір ды як гаркне паліцаям: "Хальт! Вэк!" (Стой! Прэч!). І нешта як залапоча-залапоча... Шарахнуліся басякі тыя ад Міколы, як чэрці ад крыжа!

Што паліцаі добрага чалавека забіць маглі – ці ж навіна для таго часу? Велізарным здзіўленнем была цудатворная папера, якая нагнала моцнага страху на чорных д'яблаў смерці.

### За што Міколу маглі забіць?

За праўду! Так-так: той крывавы дыктатарскі рэжым трымаўся на несусветнай хлусні і баяўся праўды, як агню. А Мікола жыў па прынцыпу: Бліны з салам еш і праўду рэж".

— Праўду-матку рэжаш? – зароў на яго паліцай, хапаючы вялізны кол. – А ну, кладзіся! Урэжам – не выдыхаеш...

А чаму? Да Міколы ахвотна хіліся аднавяскоўцы, бо ведаў ён вельмі шмат. Ён купляў газеты і часопісы, якія выдавала акупацыйная адміністрацыя на беларускай і рускай мовах. Чытаў і нямецкія газеты. Аналізаваў прачытанае, думаў. І хутка зразумеў, што ваенныя поспехі ворага – дутыя. Раструбілі на ўвесь свет, што знішчаюць бальшавікоў сотнямі тысяч. Падсумаваў ён гэтыя бальшавіцкія страты – атрымалася забітых і палонных столькі, што ў Савецкім Саюзе і людзей дарослых ужо не засталося. Вось аб гэтай мане нямецкай прапаганды ён даверліва даводзіў знаёмым. Але нехта здзейсніў сабачую справу: набрахаў на яго акупантам. І каб не той магічны "папір" – парыць бы яму сырую зямельку!

### Даведка – факт нязвычнай сустрэчы

Мікола Журыха лічыўся добра адукаваным на ўсё наваколле: скончыў гарадское вучылішча ў Куранцы за царскім часам. Пабачыў свет, доўга жыў у Германіі. Вярнуўся дадому ўжо не ў былую Расійскую імперыю, а ў новую краіну: Беларусь была пад Польшчай. Жаніўся і выращыў гаспадарыць па-новаму, як нямецкія фермеры. Выйшаў з вёскі на хутар, узвёў новыя пабудовы. А тут вазьмі ды грымні другая сусветная вайна. Спярша прыйшлі "тыя Саветы", а праз два гады – немцы...

Нядоўга нягоды акупацыі абміналі яго. Ужо 27 верасня 1942 года фашысты "агнём і мячом" прайшліся праз суседнія вёскі: Сіўцы, Талуць, Сцебракі. Без страхі над галавой засталася жанчына сястра Васіліна Гіль з Сіўцоў. Яе мужык і старэйшы сын партызанілі, і Васіліна з меншымі дзеткамі перабралася на хутар да Міколы.

Канешне, даць прытулак партызанскай сям'і азначала падпісаць сабе смяротны прыгавор. Дастаткова было злоснага шэпту якога-небудзь нямецкага прыхвасня... І на табе: ужо праз які тыдзень да Міколы на хутар прyць немцы. Першай згледзела іх Васіліна.

—Уцякайце! Ратуйцеся! – крыкнула яна сваім дзецям.

— Куды ўцячэш? Позна... – спакойна сказаў гаспадар. – Я іх сустрэну.

Ён спаткаў немцаў у дварышчы. Ветліва павітаўся і загаварыў з афіцэрам на чысцюткай нямецкай мове. Нават на дыялекце яго мясцовасці, ад чаго афіцэр здзіўлена спытаў:

— Адкуль так добра ведаеш па-нямецку?

Мікола падрабязна распавёў, як ён, былы жаўнер царскай арміі, у часы першай сусветнай вайны трапіў у нямецкі палон восенню 1914 года, як затым амаль сем гадоў жыў і працаваў у цудоўных гаспадароў...

— У каго-каго? – аж выкрыкнуў афіцэр, нібы працяты моцным электрычным токам. – Паглядзіце, калі ласка, на гэтыя фотакарткі... – змяніў ён тон да Міколы.

Узяў Мікола з рук афіцэра карткі – і на яго глянула... тая самая сям'я! Гаспадар, яго фраў, дзеці... І той хлапчук, які паспеў і вырасці, і выйсці ў афіцэры. А цяпер вось стаіць перад ім тут, у Кузьмічах. Цёплая вільгаць выступіла на вачах Міколы: былая далёкая Германія і яго юнацтва нібы вярнуліся з 20-гадовай даўніны.

Афіцэр адпусціў салдат у вёску, а сам доўга і падрабязна расказваў Міколе пра лёс сям'і, пра сябе, пра ўхабістыя дарогі вайны, якія закінулі яго на Вілейшчыну ў Куранецкі гарнізон. Расчуліўся не менш за Міколу і папрасіў:

— Дазвольце сфатаграфаваць Вас... Не трэба галіцца, пераапранацца, пераабуваць лапці. І так добра. Я пашлю гэты факт нязвычнай сустрэчы сваім бацькам. А то на слова цяжка паверыць...

На развітанне напісаў Міколу даведку-"папір" да ўсіх нямецкіх вайскоўцаў і акупацыйных уладаў з просьбай не чыніць зла Міколу Журыху, якога ён, афіцэр Вермахта, добра ведае з восені 1914 года.

Вось гэты "папір" і спрацаваў безадмоўна. Як ахоўная браня ў цяжкія хвіліны Міколы. Яму на карысць.

Сына Міколы, Мікалая Мікалаевіча, прызвалі ў Чырвоную Армію перад вайной. Служыў у Беластоцкім выступе. У першыя ж дні Айчыннай вайны тых войскі трапілі ў акружэнне. Але сын неяк выслізнуў з небяспечнай пасткі, прабраўся дадому і цудам не паўтарыў нявольніцкі лёс бацькі.

Пасля вайны гаспадару давялося назаўсёды развітацца з салодкай марай аб фермерстве. Яго саслалі з хутара, загналі ў калгас, у якім ён і будаваў светлую будучыню. Пад кіраўніцтвам сына, якога прызначылі брыгадзірам.

Такая вось добрая памяць захавалася пра Міколу Журыху з Кузьмічоў, што ў Куранецкім сельсавеце на Вілейшчыне.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ.**

■ ГАНДАЛЬ

# Вяртаемся да чэргаў?

**МАЛАДЗЕЧНА. Абласное кіраўніцтва настойвае, каб прыярытэт у гандлі аддаваўся мясцовым таварам.**

4 і 5 верасня камітэт эканамічнага кантролю Мінаблвыканкома правяраў гандлёвыя прадпрыемствы горада. У мінулую пятніцу ў гарадскі выканаўчы камітэт паступілі вынікі гэтай праверкі.

23 верасня на пазачарговым пасяджэнні гарвыканкома старшыня яго **Мікалай Чурсін** зачытаў праект рашэння Мінаблвыканкома: "...зняць з пасады першага намесніка старшыні гарвыканкома **Яфіма Ідэльчыка** і загадчыцу аддзела гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва **Тамару Мікуліч**".

Прычына ў тым, што ў гарадскіх магазінах больш прадуктаў замежнай (у асноўным, расійскай) вытворчасці, чым беларускай, і зусім мала – мясцовай. На думку некаторых чыноўнікаў, калі жывём у Мінскай вобласці, дык і есці павінныя прадукты толькі мясцовыя або "абласныя".

Яфім Ідэльчык на пасяджэнні зазначыў, што ў апошні час кантроль за продажам тавараў мясцовых вытворцаў на самой справе стаў больш жорсткім. Кожны дзень 13 чалавек правяраюць магазіны горада. Сёлета зрабілі каля 400 праверак. Усе яны насілі канкрэтны характар.

Між іншым, пакупніка, вытворцу і прадаўца хвалюе адзінае: якасць, цана, упакоўка. Дырэктар ААТ "Маладзечнагандаль" **Мікалай Віннікаў** гаворыць, што працаваць з мясцовымі пастаўшчыкамі зручней і выгадней. Усё на месцы, можна ўрэгуляваць заяўкі і звароты. Але дадаў:

— Жыццё мяняецца. Сёння выбірае народ, што яму купляць. Мясцовага вытворцу падтрымліваць, канешне, трэба. Але ад гэтага страцім абарот. Да таго ж, гандляваць выключна мясцовымі і нават айчыннымі немагчыма. Напрыклад, рыс у Беларусі не расце.

Намеснік генеральнага дырэктара СП "Лазурыт – БІО" **Марыя Інкіна** падкрэсліла, што таварам мясцовых вытворцаў аддадзена прыярытэтнае месца. Але немагчыма прымусіць пакупніка купляць гэтыя тавары.

Такім чынам, замежных прадуктаў у магазінах паступова стане менш. Так як і камерцыйных аддзелаў. Ад звычкі купіць хлеб і зубную пасту ў адным магазіне прыйдзецца адвыкнуць. Кожны магазін павінен зарабляць і запаўняць свае плошчы сам. А грошы, якія бяруцца з гаспадароў камерцыйных аддзелаў за арэнду, у разлік не ідуць. У гандлёвым доме ЗАТ "Няміга – Маладзечна" з васьмі камерцыйных аддзелаў засталіся толькі валютны і аптэчны. Лёс камерцыйных аддзелаў у гарадскіх магазінах вырашыцца да 1 снежня.

Ці не вернемся мы зноў да вялізных чэргаў за дэфіцытнымі мылам, малаком і яйкамі? Наперадзе зіма...

**ІРЫНА РАБУШКА.**




Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Маладзечанскую прадукцыю можна ўбачыць у кожнай краме. Права выбару застаецца за пакупніком.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 19 верасня | 26 верасня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1859,00 руб. | 1863,00 руб. |
| Еўра | 1809,18 руб. | 1829,75 руб. |
| Злоты | 445,66 руб. | 450,71 руб. |
| Літ | 524,03 руб. | 530,10 руб. |
| Расійскі рубель | 58,78 руб. | 58,88 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1850-1870 руб. | 1840-1880 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.09 | 25.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11700 | 11800 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2200 |
| Рыс, 1 кг | 720 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 530 | 530 |
| Цукар, 1 кг | 815 | 815 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 2000 | 1900 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 620 | 620 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 700 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 450 | 550 |
| Капуста, 1 кг | 420 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Апельсіны, 1 кг | 1400 | 1500 |
| Агуркі, 1 кг | 650 | 1350 |
| Памідоры, 1 кг | 700 | 650 |
| Кавуны, 1 кг | 350 | 350 |
| Морква, 1 кг | 500 | 500 |
| Дыня, 1 кг | 1000 | 1200 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 600 | 400 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 1800 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1600 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | | 400 |
| Журавіны, 5-л. вядро | 6000 | 8000 |

■ ЭКАЛОГІЯ

# З пустой тары няма навару...

У Радашкавічах вельмі жывапісныя мясціны. А там, дзе цяністыя гаі, шумлівыя бары, вадаёмы, там і людзі. І ўсе яны п'юць не толькі мінералку, але і моцныя напоі, сметнік пакідаючы каля хвоі... Пустой тары развялося, як тых каларадскіх жукоў... Калісьці мой дзядзька Якуб Колас паўтараў: "Якая, нябож, культура, такая і с992рактура". Сапраўды было так, як мы кажам "у старыну". Мая маці не забывала напомніць сваім сынам: "Перш чым будзеце заходзіць у рэчку, вы ж каля берага памыйце ногі. Людзі п'юць ваду з Нёмана". Параўнайце, калі ласка, адносіны да прыроды сённяшняга чалавека з тым далёкім часам. Многія людзі згубілі элементарную культуру, годнасць называцца высокім словам "Чалавек". Бытуе дзяжурная адгаворка: цяпер пайшоў такі свет. Як бацькі, школа і адпаведныя уладныя структуры на месцах мала надаюць увагі гэтай вельмі важнай праблеме! Жывe гэтае чалавечае бязмежжа бескантрольна. Гандаль, бадай што, — галоўны занятак для многіх жыхароў, бо з яго ёсць навар. Дзед Макар, мясцовы жыхар, мовіць так: "Гандляр не будзе гандляром, калі не ашукае чалавека, з гэтага ён жыве, бо які сэнс гэтай працы? Ёсць тавар, ёсць навар".

Відаць, у пэўнай ступені з гэтым можна пагадзіцца. З пустой тары няма навару. Калісьці ў мястэчку быў прыёмны пункт пустога посуду. Людзі падбіралі паўлітэркі, здавалі дзяржаве. Сёння яны валяюцца ўздоўж канала, у лясах, на тратуарах, агародах, у вадаёмах. Пустая тара – галоўны пейзаж наваколля.

Райспажыўтаварыства Маладзечанскага раёна адмовілася фінансаваць вельмі патрэбнае мерапрыемства. Думаецца, не лепшае рашэнне. Як той казаў: быццам, збярог капейку, а рубель згубіў. І не толькі грошы. Галоўнае, чалавечую годнасць, духоўную культуру, павагу да прыроды. Гэта неацэнная багацце – надзейны падмурак для інтэлігентнага грамадства. Мяркуецца, праблема пустой тары ёсць далёка за межамі Радашкавіч. Пустая тара – не дробязь у жыцці, а клопат пра экалогію, гэта духоўная сцежка "людзьмі звацца".

**Сымон БЕЛЫ.**



Фота IREX/ProMedia.

**Не заўсёды "санітары" навакольнага асяроддзя даходзяць да кожнай бутэлькі. Клопат аб пустой тары мусіць быць і клопатам улады, а не толькі зборшчыкаў нямаглага посуду.**

■ ПРЭС-ЦЭНТР

# З прытонаў будуць высяляць

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду прайшоў прэс-цэнтр пры гарвыканкоме.**

Яго асноўнай тэмай стала прыняцце мер да неплацельшчыкаў за камунальныя паслугі. А таксама да тых жыльцоў, якія вядуць амаральны лад жыцця і ўстройваюць у кватэрах прытоны.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**, прадстаўнікі камунальных службаў і міліцыі прапанавалі адзінае выйсце – высяленне такіх жыльцоў з кватэр.

Каля 70-і кватэр у горадзе выклікаюць трывогу і знаходзяцца ў антысанітарным стане.

**Ірына РАБУШКА.**

# «Макіяж» і гораду не зашкодзіць

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожны населены пункт мае сваё аблічча, свой, калі хочаце, твар, па якім яго адрозніш ад іншых. Маладзечна – не выключэнне.**

У ліку найбольш адметных рысаў можна назваць Цэнтральную плошчу – адну з самых вялікіх і прыгожых у Беларусі, парк Перамогі, Палац культуры, будаўніцтва якога блізіцца да завяршэння... Як сцвярджаюць і сталыя жыхары, і госці горада, дабаўляе прыгажосці і "макіяж", над якім апошнім часам настойліва працуюць і будаўнікі, і камунальныя службы, і праекціроўшчыкі.

Штогадовыя аб'ёмы работ па добраўпарадкаванню горада вызначаюцца комплексным планам "Мой горад – мой дом" і мерапрыемствамі, якія распрацоўваюцца ўпраўленнем архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання гарвыканкома, камітэтам па экалогіі, цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі, унітарным прадпрыемствам "Камунальнік", прадпрыемствамі і арганізацыямі па санітарнай уборцы горада і яго ўтрыманню.

Намаганні згаданых службаў не засталіся незаўважанымі. Так, па выніках абласных аглядаў-конкурсаў гораду ў 2000 і 2001 гадах былі ўручаны Дыпломы 1-й і 2-й ступеняў сярод гарадоў з колькасцю насельніцтва да 100 тысяч чалавек.

Недастатковасць бюджэтных сродкаў на добраўпарадкаванне гарадскіх тэрыторый, на азеляненне, рамонт і афарбоўку фасадаў будынкаў, на рэкламнае афармленне, падсвечванне будынкаў вымушае гарадскія ўлады задзейнічаць фінансавыя і матэрыяльныя магчымасці бізнесу. Тых прадпрыемстваў, арганізацый, камерцыйных структур і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія дзеля развіцця сваёй вытворчай дзейнасці, гандлёвай сеткі і сферы паслуг зацікаўленыя ўладкаваць гарадскія тэрыторыі. Найбольш аб'ём работ па добраўпарадкаванню горада выконваюць будаўнічыя і дарожныя арганізацыі: "Спецбудмеханізацыя", "Будаўнік-169", ДРБУ-49 і ДРБУ-195, ПМК-212, "Будаўнік-210"...

Толькі сёлета праекціроўшчыкамі, творчымі калектывамі было распрацавана больш за сто праектных прапаноў па добраўпарадкаванню горада. Усе яны перададзены для выканання тым прадпрыемствам і арганізацыям, за якімі замацаваны тэрыторыі.

Пачынаючы з 1999 года ў горадзе за сродкі індывідуальных прадпрымальнікаў устаноўлена 15 новых аўтобусных прыпынкаў з кіёскамі і добраўпарадкаваннем тэрыторый. Добраўпарадкавана 7285 кв.м участкаў гарадскіх тэрыторый з уладкаваннем газонаў, кветнікаў, плітачным пакрыццём тратуараў, заменай бардзюраў. Пакладзены асфальт і выканаць ямкавы рамонт вуліц плошчай 4685 тыс. кв. м. Больш чым на 200 будынках абноўлена рэклама, устаноўленыя новыя шыльды на аб'ектах грамадскага прызначэння, пасаджана 5 тысяч дрэў.

Гэта, аднак, лічбы. Для таго ж, каб асабіста пераканацца, наколькі шырока абнаўленне закранула горад, трэба прайсціся яго вуліцамі і плошчамі. Маладзее ўвачавідкі Маладзечна.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

**13 верасня ў "РГ" быў апублікаваны зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў да грамадзян Беларусі. У ім ёсць заклік падтрымаць патрабаванне аб адмене артыкулаў Крымінальнага Кодэкса "Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт.369). Тэма наступу на СМІ застаецца актуальнай. Сёння мы змяшчаем матэрыялы, напрамую звязаныя са свабодай слова ў нашай краіне.**

# За нашую і вашую свабоду

## Беларускія журналісты просяць аб дапамозе

**Свабодным чалавек адчувае сябе толькі тады, калі яму вядома, ад якіх менавіта абставін залежыць яго ўласны лёс. Невядомасць насцярожвае і палохае, звязвае па руках і нагах, прымушае рабіць не той выбар, які хацелася б. Бо першая прыкмета свабоднага чалавека – свабода выбару.**

У Рэспубліцы Беларусь абмяжоўваюць вяшчанне тэлевізійных каналаў і закрываюць недзяржаўныя газеты з адной мэтай – умацаваць нашу агульную несвабоду. Наша несвабода, неінфармаванасць беларускага народа дазваляюць уладзе адчуваць сябе камфортна, рабіць выгляд, што яна атрымлівае 100-працэнтную (ці 80-працэнтную – трэба папытацца ў Лукашэнкі, ці ведае ён) падтрымку. Ёсць стары, савецкіх часоў, анекдот аб сустрэчы Сталіна, Гітлера і Напалеона. Дык вось, Напалеон быў засмучаны, што ў яго не было газеты "Правда": была б – і ўвесь свет нават не здагадаўся б аб Ватэрлоа!

Артыкулы ў Крымінальным Кодэксе, вядома, палохаюць і журналістаў. Увогуле, любы нармальны чалавек, вядома ж, баіцца турмы. Але журналісты працягваюць выконваць свой грамадзянскі абавязак. Мы пішам кожны дзень тое, што думаем, здымаем для расійскіх і заходніх тэлеканалаў і пішам для радыё праўду (не "Праўду", а ПРАЎДУ) аб сітуацыі ў Беларусі. Мы рабілі гэта пасля знікнення Дзімы Завадскага, пасля закрыцця газет "Свабода" і "Пагоня", пасля вялізных штрафаў, прысуджаных нашым калегам. Вядома ж, мы таксама калі-небудзь робім памылкі, але гэта – нішто ў параўнанні з тым, што свабодные слова дае кожнаму з вас, нашыя чытачы і сугрАмадзяне.

Сёння мы звяртаемся да вас за дапамогай. Гэта вымушаная просьба, таму што цяпер без вас нам не абысціся. Улада выкарыстоўвае судовую сістэму як лом, супраць якога няма прыёму, пытаецца запалохаць недзяржаўныя выданні. Цяпер, калі канстытуцыйнае права Аляксандра Лукашэнкі балаціравацца на прэзідэнцкі пост вычарпана, улада рыхтуецца да рэферэндуму. Ёй важна ўтрымацца, таму што яна сама баіцца свайго народа. Яны ўсе думаюць пра будучыню – Шэйман і Сівакоў, Навумаў і Замяталін. Вы ж ведаеце аб іх толькі дзякуючы таму, што расказалі вам мы. Цяпер нам хочуць заткнуць рот, а вам – вушы і правесці рэферэндум, які дазволіў бы Лукашэнку балаціравацца на трэці тэрмін. Гэта азначае, што ўсю астатнюю частку жыцця тыя з вас, каму ўжо 45-50 гадоў, праўдзіць пры Лукашэнку. Гэта азначае, што ён украдзе лепшыя гады жыцця ў вашых дзяцей. Калі вы не будзеце ведаць, што ўяўляе сабой улада.

Не трэба думаць, што гаворка ідзе толькі пра сталічных журналістаў. Усе, так бы мовіць, ходзім пад богам і Крымінальным Кодэксам. Няхай гродзенцы ўявяць сабе, як, напрыклад, Бірукова судзіцца з "Біржай інфармацыі", а брэстчане – як Цуприк дабіваецца закрыцця "Брестского курьера". І ў кожным раёне, кожнай вобласці знойдзецца газета і журналіст, якія нежаданы ўладзе. Гэта пачалі яны з тых, хто здаваўся радыкалам, з "Пагоні" і "Свабоды". Але галоўная мэта – якраз гэтыя, памяркоўныя, узважаныя, якія не падстаўляюцца па глупству і даюць сваім чытачам дакладную і праверанную інфармацыю, а таму – самую небяспечную інфармацыю.

Вы можаце сказаць: што ж, адну газету закрыюць – другая будзе. Не будзе. Узгадняць права адкрыцця газеты, у першую чаргу, мясцовай газеты, прыйдзецца з мясцовымі ўладамі. Не для таго гродзенскія ўлады закрывалі "Пагоню", каб даць дазвол таму ж Маркевічу адкрыць новую. Цяпер лозунг мясцовай улады просты: "Цягнуць – і не пускаць!". Якраз як у Дзяржымворды ці Угрум-Бурчэева. Можна выбіць над уваходам у большасці выканкомаў.

Мы, журналісты, упершыню звяртаемся да чытачоў за дапамогай. Калі чытачы бачаць мяне ў сваіх гарадах, яны падыходзяць і кажуць "дзякуй" за мае артыкулы. Бывае, тэлефануюць у рэдакцыі і пішуць пісьмы. І так адбываецца з вельмі многімі вядомымі журналістамі – Сямёнам Букчыным і Іосіфам Сярэдзічам, Пятром Марцавым і Мікалаем Аляксандравым, Уладзімірам Шпарлам і Аленай Раўбецкай, Аляксандрам Старыкевічам і Андрэем Махоўскім, Ганнай Ляшкевіч і Аляксандрам Сілічам. Дзякуй вам за гэтую падтрымку: мы не кошкі, але добрае слова і журналісту прыемнае. Але цяпер мы просім вас далучыцца да акцыі, якая праводзіцца Беларускай асацыяцыяй журналістаў. Мы просім вас накіраваць у рэдакцыі недзяржаўных газет, якія вы чытаеце, выразаныя і запоўненыя купоны. Нам патрэбна сабраць хаця б 50 тысяч подпісаў, каб атрымаць права выступіць з заканадаўчай ініцыятывай, рэалізацыя якой зробіць больш свабоднымі не толькі нас як прафесіяналаў, але і вас. Мы, розныя журналісты з розных газет, просім вас, нашых пастаянных і выпадковых чытачоў, падтрымаць нас. Разам мы пераможам, а калі і не пераможам, дык хаця б адчуем сябе свабаднейшымі.

**Аляксандр ФЯДУТА.**

### Купон

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага Кодэкса "Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт.368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт.369)**

**Прозвішча, імя, імя па бацьку** ____________________

____________________

**Год нараджэння** ____________________

**Адрас** ____________________

**Асабісты подпіс** ____________________

**Шаноўны чытач! Калі ты падтрымліваеш зварот журналістаў да грамадзян, дашлі, калі ласка, запоўнены купон на адрас рэдакцыі. Твая пазіцыя вельмі важная.**

**"Рэгіянальная газета".**

■ ЛІСТ АД ЧЫТАЧА

# Мы павінныя адстойваць свае правы

**Я падтрымліваю вашу акцыю пратэсту, бо лічу, што мы павінныя жыць у прававой і незалежнай дзяржаве, дзе галоўная роля належыць закону, а не амбіцыям. Так запісана ў Канстытуцыі, значыць, так і павінна быць.**

Але, на жаль, пакуль гэта толькі фармальна. Ваш артыкул не пакінуў мяне раўнадушнай: абурэнне, нежаданне мірыцца з дыктатарскім рэжымам, але ў першую чаргу – шкадаванне, што наш народ такі апалітычны ў сваіх поглядах і меркаваннях. Мы павінныя абараняць і адстойваць свае правы. СМІ трэба быць адкрытымі і незалежнымі. Галоснасць патрэбная як сродак барацьбы з тыраніяй і самазадаволенасцю. Артыкулы "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", "Абраза прадстаўніка ўлады" – гэта глупства і здзек над законам і народам. Асудзіць чалавека за яго меркаванне, за крытыку дзеянняў улады – гэта прававое бязмежжа.

Не ведаю, колькі людзей адгукнецца на вашу просьбу, але калі мой подпіс можа адыграць хоць якую-небудзь ролю, то жадаю вам удачы.

Жадаю вам поспехаў і, вядома ж, перамогі!

**Алена ШУШКЕВІЧ, в.Раёўка.**

# Асудзілі журналіста

**Яшчэ адзін журналіст прысуджаны да абмежавання волі за паклёп на прэзідэнта**

16 верасня суд Першамайскага раёна Мінска прыгаварыў галоўнага рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча да двух гадоў абмежавання волі.

Суддзя У. Кобышаў прызнаў журналіста вінаватым у замаху на знявагу і паклёп на прэзідэнта РБ. Крымінальная справа была заведзеная ў жніўні 2001 г. па факце публікацыі ў перадвыбарным нумары газеты артыкула «Вор должен сидеть в тюрьме». Матэрыял распавядаў пра карупцыю ва ўладзе і, з меркавання пракуратуры, утрымліваў ілжывыя і зневажальныя для А. Лукашэнкі звесткі. Спецвыпуск не патрапіў да чытача: увесь наклад «Рабочага» быў канфіскаваны 28 жніўня 2001 г. у друкарні «Мэджык», якой перад выбарамі кіраваў намеснік старшыні Дзяржкамдруку Уладзімір Глушакоў. Суд над Віктарам Івашкевічам быў закрытым.

**Прэс-служба ГА «БАЖ».**



Фота IREX/ProMedia

**Журналісты Павел Мажэйка і Мікалай Маркевіч развітваюцца з роднымі і калегамі на пероне чыгуначнага вакзала перад адбыццём на папраўчыя работы. Гродна, 31 жніўня 2002 г.**

# Маркевіч – вахцёр

**Мікола Маркевіч уладкаваўся дзённым вахцёрам у Асіповіцкую фірму «Сірыус».**

- Мяркую, што ў маёй сітуацыі гэты варыянт лепшы з усіх магчымых! – гаворыць Маркевіч. - Па-першае, мяне ніхто не браў, бо я «палітычны», а значыць, небяспечны для бізнесу таго, хто мяне возьме. Мне так і казалі працадаўцы: «Мы цябе возьмем, а заўтра да нас кантралёры бацькавыя прыедуць!..» Так што ўчынак дырэктара «Сірыуса» Уладзіміра Гароха выглядае, без перабольшвання, смелым.

Мікола Маркевіч узяты на пасаду дзённага вахцёра. Ён абавязаны адчыняць і зачыняць браму, а таксама сачыць за вывазам грузаў з тэрыторыі прадпрыемства.

**www.pahonia.promedia.minsk.by.**

# Кодэкс маўчання

**Грамадскі абавязак прэсы заключаецца ў тым, каб прыдзірацца да ўлады пры кожным зручным выпадку. Для нашага вуха гэты прынцып гучыць нязвыкла і жорстка. Але ён сфармуляваны даўно і не ў Беларусі і даказаў сваю правільнасць на практыцы.**

Калі прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі сродкі масавай інфармацыі, вобразна кажучы, вазілі фізіяноміяй па сталe за інтрыжку з практыканткай, ён далёка не адразу прызнаў сваю віну. Але пагражаць газетам і журналістам судом кіраўнік звышдзяржавы сабе не дазволіў. Хаця здзекаваліся над ім за дробязь, у сутнасці, сваавольства ў такіх формах і выказваннях, якія нашым чыноўнікам не сніліся ў самых страшных снах. Паспрабуем высветліць, чаму моцныя палітыкі не бяруць прэсу за грудзі, не сыкаюць пры гэтым у твар: "За ўсё адказаш!".

**Асноўнымі састаўнымі часткамі поспеху ў сучасным свеце ёсць рынкавая эканоміка і дэмакратыя, неад'емнай часткай якой з'яўляецца свабода друку. Здаровай уладзе не страшныя крытыка і нападкі журналістаў.**

Насупраць, яна выкарыстоўвае СМІ ў якасці кантрольна-карэкціровачнага механізму ці, прасцей, погляду збоку, які дазваляе заўважаць рэчы, часам нават скрытыя ад уласных вачэй. Пры гэтым зерне патрэбна аддзяляць ад пустазелля: разумныя заўвагі прымаць, а ўсякае глупства ігнараваць.

Інакш пастаўлена справа ў нас. Уладзе, як цяжкахвораму чалавеку, патрабуецца стэрыльная атмасфера, дзе альтэрнатыўны погляд недапушчальны. Любая спроба грамадскага кантролю ўладай успрымаецца як асабістае зневажанне і пагроза ўласнаму існаванню. Пагэтаму ў краіне фактычна ліквідаваныя як незалежныя інстытуты заканадаўчая і судовая ўлады, пастаўлены пад поўны кантроль праваахоўныя органы і паралізавана дзейнасць апазіцыі.

**Толькі незалежным сродкам масавай інфармацыі больш-менш паспяхова ўдаецца захоўваць самадастатковасць.**

Іх не ўдалося пахаваць ні эканамічнымі метадамі (бессаромнымі ў параўнанні з афіцыёзнымі газетнымі тарыфамі на дастаўку і распаўсюджванне), ні пастаяннымі штрафамі, якія накладаюцца судамі і шматлікімі кантралёрамі, ні іншымі ўдарамі ніжэй пояса, якім няма ліку. І тады ўлада вырашыла пусціць у ход яшчэ больш "моцны аргумент" – Крымінальны Кодэкс. І цяпер нашы "безабаронныя" і "усімі пакрыўджаныя" чыноўнікі знаходзяцца пад аховай некалькіх артыкулаў Крымінальнага Кодэкса. Любая крытыка ў іх адрас (дарэчы, не толькі ў СМІ, але і проста з вуснаў любога грамадзяніна) пры жаданні можа быць прыраўнена да злачынства.

Прыхільнікі гэтага, як правіла, не абгрунтоўваюць свой пункт погляду. У крайнім выпадку, яны штосьці гавораць аб злоўжыванні свабоднага друку. У гэтай сувязі можна правесці такую паралель. Калі чэснага чалавека назавуць злодзеем, яму гэта, вядома, будзе непрыемна. Але ён можа ці не звяртаць увагі на звесткі, якія не адпавядаюць сапраўднасці, ці падаць іск аб абароне прыстойнасці (хаця, як нашы суды аберагаюць некранутую чысціню мундзіраў высокапастаўленых дзеячаў – гэта іншая песня). Калі ж злодзеем назавуць таго, на кім даўно гарыць яркім полымем галаўны ўбор, то ўсё для нячыстага на руку персанажа па-сапраўднаму небяспечна. Таму вышэйпамянёныя артыкулы КК прызначаны для абароны менавіта злачынцаў, а не сумленных грамадзян, якія здольныя абараняць сваю рэпутацыю на агульных падставах.

**Па праўдзе кажучы, сітуацыя наша вельмі запушчаная. Надзеі на тое, што улада прыслухаецца да голасу грамадскасці, нямнога. Але з тымі, хто маўчыць, лічыцца ўвогуле ніхто не будзе.**

Таму вельмі важна, каб ініцыятыва Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў КК, што ператтвараюць яго ў "кодэкс маўчання", знайшла падтрымку ў нармальных людзей, якім не абыякава іх уласная будучыня. Рассвет непазбежны, але хуткасць яго наступлення залежыць ад таго, наколькі актыўна мы будзем наближаць гэты момант сваімі дзеяннямі.

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# «Маладзечну-2000» забіваюць 19 матчаў запар

**22 верасня. Маладзечна-2000 – Шахцёр (Салігорск) 0:2 (0:1)**

Галы: Слесарчук (23), Падрэз (67-пен)

Суддзя Валерый Язевіч (Ліда), 600 гледачоў

**Сідарэнка (Лявончык, 76)**
**Смірноў (Тартоўскі, 77)**
**Сысой Макрыцкі**
**Карпіленка Дараховіч**
**(Мятліцкі, 84)**
**Азява**
**Дрозд Пятроўскі**
**Азаронак**
**Сцепановіч (к)**

Запасныя – Рубацкі, Калінюк, Грыхуцік, Альховік.

Лепшыя – Макрыцкі (трэці раз у сезоне), Дрозд (другі).

Салігорцы ўзначальваюць пагоню за тройкай лідэраў і яшчэ не страцілі шансаў на медалі, прычым ад першага месца іх аддзяляе толькі 7 ачкоў. Матч з "Шахцёрам" пакінуў уражанне, што нашы хлопцы прагрэсіруюць. Яны не толькі далі бой гасцям (гэта звычайная рэч), але ў першым тайме пераўзышлі іх па колькасці галявых момантаў, хаця і дзейнічалі ад абароны. Пасля перапынку больш востра атакавалі госці.

## Галы

Кожны з таймаў прынёс аднолькавы лік 0:1. Слесарчук забіваў пасля падачы вуглавога. Да пенальці ў выкананні Падрэза (ён, на жаль, амаль заўсёды нам забівае) прывяла памылка Азаронка, які няўдала адпасаваў Сцепановічу галавою, а Віталю прыйшлося парушыць правілы супраць нападаючага.

## Гульня

У першым тайме ў маладзечанцаў была магчымасць павесці ў ліку, калі Дараховіч вывеў Сідарэнку сам-насам з галкіперам гарнякоў Марцёшкіным. Наш нападаючы чатыры гульні не меў гульнявой практыкі і паспешліва прабіў вышэй варот. Вясельныя справы не сапсавалі спартыўную форму Макрыцкага: гуляючы на фланзе, ён выйграў некалькі забегаў па броўцы і двойчы ўваходзіў у штрафную і біў нізам, толькі Марцёшкіна так проста не праб'еш. А потым салігорскі варатар вырataваў сваю каманду пры ліку 0:2, калі Віталь выйшаў з ім на рандэву, перахапіўшы мяч у абаронцы.

Пасля перапынку давялося паказаць майстэрства і Сцепановічу: ён парыраваў удар ва ўпор метраў з дванаццаці, а потым узяў небяспечны штрафны. Сярод нашых абаронцаў спадабаўся Дрозд: у яго атрымлівалася гуляць і разважліва, і тэхнічна. У цэнтры поля вядучага гульца цяпер няма: на словах лідэрскія функцыі бярэ на сябе Карпіленка, а на справе ні яму, ні Смірнову з Дараховічам не ўдаецца зрабіць некалькі дакладных перадач запар.

Упартая гульня гаспадароў нават завяла трыбуны (на жаль, зусім малазапоўненыя). Калі Мятліцкага, які падрыхтаваўся выйсці на замену, арбітр некалькі хвілін не заўважаў ля броўкі, балельшчыкі падказалі яму гучным скандзіраваннем.

Дырэктарам грамадскага аб'яднання і начальнікам каманды замест Юрыя Лукіна будзе 32-гадовы мінчанін Сяргей Рэзкі, які мае досвед кіравання ў спартыўнай сферы. Юрый Лукін працаваў у клубе з 1998 года, быў з камандай у самыя цяжкія гадзіны і напрыканцы дзевяностых, і ў гэтым сезоне. Заяву аб звальненні па асабістым жаданні падаваў яшчэ летам, але задавальненая яна была толькі на мінулым тыдні. Цяпер, хутчэй за ўсё, будзе займацца педагагічнай працай.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Каментарый

Галоўны трэнер ФК "Маладзечна-2000" Аляксандр Кісцень:

- Салігорская каманда – моцны сапернік. Зноў пры даволі добрай гульні мы саступілі. Дзве памылкі вырашылі зыход матча не на нашу карысць, хаця ў дэбюце мы мелі добрыя моманты.

Галоўны трэнер "Шахцёра" Юрый Вяргейчык:

- Поле вузкаватае, прыйшлося гуляць у два нападаючыя. Нашы форварды перайгралі маладзечанскіх абаронцаў на другім паверсе. Вынікам, канешне, задаволены, але якасць гульні пакідае жадаць лепшага.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

З "Белшыны" зняты 3 ачкі з-за таго, што трансферы двух футбалістаў не былі аплачаны.

Тарпеда – Дынама (М) 0:0, Зорка-ВА-БДУ – Тарпеда-МАЗ 0:1, Лакаматыў-96 – Нёман 1:5, Днепр-Трансмаш – Дынама (Б) 2:0, БАТЭ – Славія 3:1, Белшына – Гомель 3:0.

| | |
|---|---|
| 1. Нёман | 45 |
| 2. БАТЭ | 44 |
| 3. Тарпеда-МАЗ | 43 |
| 4. Шахцёр | 38 |
| 5. Днепр-Трансмаш | 35 |
| 6. Дынама (М) | 34 |
| 7. Тарпеда | 33 |
| 8. Гомель | 33 |
| 9. Белшына | 25 |
| 10. Дынама (Б) | 24 |
| 11. Зорка-ВА-БДУ | 13 |
| 12. Славія | 11 |
| 13. Маладзечна-2000 | 8 |
| 14. Лакаматыў-96 | 6 |

Бамбардзіры: Стрыпейкіс (Белшына) – 14; Ю. Мархель (Тарпеда) – 12.

■ ФУТБОЛ, «СКУРАНЫ МЯЧ»

## Лепшыя ў краіне

**СМАРГОНЬ. Мясцовыя хлопцы 1990 года нараджэння выйгралі рэспубліканскі турнір "Скураны мяч", у якім удзельнічаюць юнакі, што не займаюцца ў ДЮСШ.**

Смаргонскі "Алімп" 28-30 жніўня дома пераўзышоў канкурэнтаў у абласным турніры. Затым 4-6 верасня з'ездзіў патрэніравацца ў Скідзель, дзе сабралася старэйшая група (1988 г.н. і малодшыя), стаўшы там дзевятым з 16-ці калектываў. 11-14 верасня прыняў дома фінальны рэспубліканскі турнір, на які прыехалі па адной камандзе з кожнай вобласці і дзве з Мінска.

У сваёй групе гаспадары не пакінулі шансаў сталічнаму "Вікінгу" 3:0, навалукомскаму ЛГРЭСу 6:0 і "Змене" з Бярозы 3:0. У фінале за першае месца былі мацнейшымі за сталічнае "Юнацтва" 4:0.

У складзе пераможцаў можна вылучыць лепшага гульца турніру паўабаронцу Руслана Цімафейчыка і варатара Дзяніса Зайцава. Рыхтаваў хлопцаў Сяргей Недавес.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ВАСТРЫЦЕ КІПЦЮРЫ

# Спаборніцтвы электраманцёраў

**На мінулым тыдні на вучэбна-трэніровачным палігоне рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Брэстэнерга" праводзілася рэспубліканская спаборніцтвы брыгад электраманцёраў на званне "Лепшы па прафесіі".**

"Мінскэнерга" прадстаўляла Вілейская каманда электрычных сетак (РЭС), якая напярэдадні выйграла занальнае і абласное першынствы. З пачатку спаборніцтваў адразу выявіліся патэнцыяльныя лідэры – гаспадары, каманда Бярозаўскага РЭС і віляйчане. Такая расстаноўка месц і выбраны высокі і напружаны тэмп барацьбы паміж сапернікамі захаваўся на ўсіх васьмі этапах конкурсу.

Члены брыгад паказвалі веданне нарматыўных дакументаў і ўменне аказваць першую дапамогу. Звярталася ўвага на аснашчанасць машын, інструментаў, прыстасаванняў і спецадзенне брыгады.

Многія гадзіны напружанай вучобы і трэніровак не прайшлі дарма. Першае месца суддзі аддалі гаспадарам.



Фота Анатоля РОГАЧА

**Сярэбраныя прызёры спаборніцтваў на званне "Лепшы па прафесіі": галоўны інжынер РЭС Міхаіл Жаўняровіч, майстар Павел Клютчэня, электраманцёры Барыс Грыпініч, Юрый Ляцяга, электраманцёр-шафёр Анатоль Занкавіч.**

Віляйчане засталіся на другім месцы, набраўшы 361,5 ачка з 370 магчымых, адстаўшы ад пераможцаў усяго на тры балы. На трэцім месцы – каманда Віцебскага сельскага РЭС. Пераможцам і прызёрам былі ўручаны каштоўныя падарункі.

Для маладой і перспектыўнай каманды Вілейскага РЭС гэта першы значны поспех.

**Анатоль РОГАЧ,**
**начальнік Вілейскага раёна электрычных сетак.**

**Анонс**

**28.09 Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000**
+3=5-8 21-23. У першым крузе 2:3 (Макрыцкі, Акуліч) дома

**29.09 Смаргонь – Граніт (Мікашэвічы)**
У першым крузе 0:2 на выездзе

**29.09 Баранавічы – Забудова**
+0=1-2 3-8. У першым крузе 1:3 (Байлукоў) дома

**27-28.09. Кубак Беларусі па гарадках.**
Маладзечна, гарадошны стадыён. Пачатак у пятніцу ў 12-00, у суботу ў 10-00.

**29.09. Апошні тур каманднага чэмпіянату краіны па гарадках.**
Краснае, вайсковая часць, пачатак у 11-00. Гуляюць СКА, "Кэмпі" (Маладзечна) і "Нёман" (Бярозаўка).

**26-29.09. Більярд, "Кубак Маладзечна".**
Рэспубліканскі рэйтынгавы турнір па більярдзе. Клуб "Караліна", вул. Міру, 56-а. Кожны дзень з 10-00 і да вечара.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Прынцыповы суддзя

**14 верасня. Нёман (Масты) – Смаргонь 2:1 (2:0)**

Суддзя Георгій Вярбіцкі (Слонім), 1000 гледачоў. Галы: Белаш (10-пен), Руцько (40); Налівайка (90-пен).

Галы забіваліся пасля рашучых мераў арбітра. Пенальці напачатку і штрафны ўдар у непасрэднай блізкасці да варот напрыканцы першага тайма, пенальці на 90-й хвіліне. Даў пяць папярэджанняў, а на 82-й хвіліне выдаліў Уладзіміра Уткіна **за неадназоразовае ўмяшанне ў яго дзеянні.**

Атрымаўшы пенальці ўдзябюце, смаргонцы не тое, што б склалі зброю, але падсвядома зразумелі, што паехаць з Мастоў з ачкамі наўрад ці ўдасца.

Ліда – Камунальнік 2:0, Хімік – Бяроза 1:0, Лакаматыў – ЗЛіН 3:0, Граніт – Днепр-ДЮСШ-1 3:1, Дынама-Юні – Нафтан 0:3, Дарыда – Ведрыч-97 3:0, Тарпеда-Кадзіна – Асіповічы 7:0.

| | |
|---|---|
| 1. Дарыда | 59 |
| 2. Нафтан | 56 |
| 3. Граніт | 53 |
| 4. Ведрыч-97 (-1) | 50 |
| 5. Лакаматыў (-1) | 50 |
| 6. ЗЛіН | 36 |
| 7. Ліда (-1) | 34 |
| 8. Днепр-ДЮСШ-1 (-1) | 30 |
| 9. Камунальнік | 30 |
| 10. Тарпеда-Кадзіна | 29 |
| 11. Нёман | 29 |
| 12. Дынама-Юні (-2) | 25 |
| 13. Хімік | 25 |
| 14. Смаргонь | 22 |
| 15. Бяроза | 21 |
| 16. Асіповічы | 9 |

Бамбардзіры: Кузьмянок (Дарыда) – 29; Юсіпец (Ведрыч-97) – 18.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

## Экатурызм у Камарове

**МЯДЗЕЛ. На выхадныя ў Камарове правялі чарговы семінар па экатурызму. На гэты раз для мясцовых людзей – з Мядзельскага і Смаргонскага раёнаў.**

Паказалі для прыкладу і дачу мінчан, дзе можна было б прымаць экатурыстаў. На выгляд – сціпленькая вясковая хата, захаваны старадаўні каларыт і ў сярэдзіне. Але ўсё зроблена з густам, да таго ж у доме ёсць гарачая і халодная вада, душ, туалет.

Лічаць у Камарове, што экатурызм у рэгіёне павінен развівацца і даваць работу людзям.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЛЫЖЫ

## Бронза Ірыны Нафрановіч

**МЯДЗЕЛ. У Расіі прайшоў адкрыты чэмпіянат краіны па летняму мнагаборству сярод лыжнікаў.**

Выхаванка спартыўнай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву, студэнтка першага курса Акадэміі фізвыхавання Ірына Нафрановіч паказала лепшы вынік з беларускай каманды. Сярод юніёрак яна завявала бронзавы медаль.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Табло**

■ БЕГ

**МЯДЗЕЛ. У Капылі прайшоў чэмпіянат рэспублікі па экідэне (марафонская эстафета, у якой дуэт бегуноў па чарзе павінен прабегчы 42 кіламетры).**

Мядзельчане Андрэй Паспелаў і Аляксандр Быкаў занялі другое месца ва ўзроставай групе 30–39 год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ГАРАДКІ

**Сёмы тур клубнага чэмпіянату краіны.**

Маладзечна. МЭС – СКА 3:2, МЭС – Юнацтва 3,5:0,5, СКА – Юнацтва 3:0.

Мінск. Аўтасіб – БелАвія 3:0, Аўтасіб – Кэмпі 2,5:2,5, Кэмпі – БелАвія 3:0.

Мінск. Нёман – Шахцёр 3:2, Шахцёр – Лакаматыў 3:0, Нёман – Лакаматыў 3,5:0,5.

Сярод нашых землякоў былі адзначаны Генадзь Сушко (МЭС), Аляксандр Гарошка (Кэмпі), Аркадзь Жызнеўскі (Юнацтва), Дзмітрый Туравец (Аўтасіб), Сяргей Сергіевіч (СКА).

У бліжэйшую нядзелю ў Красным СКА, "Кэмпі" і "Нёман" разыграюць другое і трэцяе месцы.

| | |
|---|---|
| 1. МЭС (Маладзечна) (+2) | 45 |
| 2. Нёман (Бярозаўка) | 32 |
| 3. Кэмпі (Маладзечна) | 31 |
| 4. Аўтасіб (Мінск) (+2) | 29 |
| 5. СКА (Краснае) | 28 |
| 6. Белавія (Мінск) | 7 |
| 7. Лакаматыў (Орша) (+2) | 7 |
| 8. Юнацтва (Маладзечна) | 6 |
| 9. Шахцёр (Салігорск) | 6 |

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

**21 верасня. Маладзечна-2000 (дубль) – Шахцёр (Салігорск, дубль) 3:3 (3:1)**

Галы: Тартоўскі (3), Антановіч (19), Грыхуцік (45); (44), (56), (63)

Склад: Рубацкі (кап.), Нявядомскі, Відрук, Ясюкевіч, Альховік, Калянюк, Антановіч, Мятліцкі (Абановіч, 85), Лявончык (Татун, 46), Тартоўскі (Матусевіч, 46), Грыхуцік (Харэцкі, 62).

Маладзечанцы маюць 9 ачкоў і займаюць апошні радок у турнірнай табліцы. Аляксандр Грыхуцік забіў шосты гол у сезоне.

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

**21 верасня. Забудова – РВАР (Мінск) 1:0 (0:0)**

Гол: В. Урублеўскі (54-пен)

| | |
|---|---|
| 6. Верас | 19..32 |
| 7. Дынама-БНТУ | 20..27 |
| 8. Забудова | 21..27 |
| 9. СКВІЧ | 22..26 |
| 10. РВАР | 19..20 |

■ ФУТБОЛ, АМАТАРАМ СТАТЫСТЫКІ

Склад смаргонцаў.

У Асіповічах: Шэлест, Іваноў, Давідовіч, Курак, Кода, Налівайка, Дукса (Жачко, 67), Стэльмах (Селіванаў, 61), Шпакоўскі (Шаблінскі, 46), Шамшорык, Жаркоў.

Дома з "Тарпеда-Кадзінам": Шляхавой, Іваноў, Давідовіч, Курак, Кода, Налівайка, Мяць, Чарнуха (Селіванаў, 70), Шпакоўскі (Жаркоў, 46), Шамшорык, Кошаль (Шаблінскі, 60).

Першы прапушчаны гол дома з "Лакаматывам" на рахунку Селіванава як аўтагол.

Гол "Забудовы" ў Казенках забіў Міхейчык.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з 60-годдзем дарагую мамачку **Веру Сцяпанаўну Ладуцьку**! Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту. *Муж і дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Тамару Мікалаеўну Ігнаценку** з Вілейкі! Шчасця, здароўя! *Калектыў дз/с №5.*

**Ірына Хвядзевіч**, віншуем з днём нараджэння! Шчасця, кахання, удачы. *Людміла.*

З юбілеем віншую брата **Міхаіла Апяцёнка**! Жадаю здароўя, доўгіх год жыцця, шчасця. *З любоўю сястра Аня.*

Віншуем з 50-годдзем **Міхаіла Мікалаевіча Апяцёнка**! Жадаем моцнага здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту. *З павагай сям'я Івашкевічаў.*

Віншуем **Алега Посаха** з днём нараджэння! Мы хотим пожелать тебе вечность, жизни светлой, любви без преград. Мы хотим пожелать тебе нежность, весны и любящих глаз. *Сябры.*

Віншую з 23-годдзем **Цімафея Уладзіміравіча Татуна**! Жадаю шчасця, здароўя, поспеху. *Сябар Аляксандр.*

Віншуем дарагога сыночка **Дзіму Малько** з 21-годдзем! Жадаем моцнага кахання, святла і шчасця. *Мама, тата, сястра Вераніка.*

Віншуем з 33-годдзем **Танечку Івашчанку**! Жадаем шчасця, радасці, кахання. Няхай збываюцца твае мары! *Сям'я Кодзісаў, Юркевіч.*

Дарагі **Артур Кодзіс**, віншуем цябе з 12-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе і танцах. *Мама, тата, Яна.*

Віншуем з днём нараджэння **Жанну Мікалаеўну Шылко** з Вілейшчыны! Здароўя і шчасця, поспехаў у лёсе. *Дзядзя Валодзя і цёця Зіна.*

Віншую з днём нараджэння любага мужа **Алега Ляшкевіча**! Няхай заўсёды Бог аберагае і ласку шчодра пасылае. *Жонка Людміла.*

**Настачка**! Віншуем з 18-годдзем! Здароўя, шчасця, добрых сяброў, поспехаў у вучобе. *Сям'я Ракоўскіх з Маладзечна.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Урач, 55/170/77, шукае жонку 37-43 гады, худзенькую, прыгожую, рост 156-163 см, з 1 дзіцем. Мінск-92, да запатрабавання, Мікалай Васільчанка.

Маладая жанчына з в/а, без шк/зв., жадае стварыць сям'ю з самастойным мужчынам. Маладзечна-4, п/п МС 0612629.

Жанчына, 39/164/62, пазнаёміцца з мужчынам. Маладзечна-7, п/п ОМ-XIX №860435.

Прыемны мужчына без шк/зв., забяспечаны жыллём і матэрыяльна, адзінокі, 46/177/74, пазнаёміцца з жанчынай да 45 год, можна з дзіцем. Маладзечна-6, п/п МС 0182929.

Жанчына 52/155/55 пазнаёміцца з адзінокім мужчынам да 60 год. Тых, хто быў пазбаўлены волі і са шк/зв., прашу не турбаваць. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 0535236.

■ АРХЕАЛАГІЧНАЯ СЕНСАЦЫЯ

# У Вілейцы знайшлі «Лысіну Паца»



Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

**Архітэктар з Гродна Анатоль Капцюг знайшоў камень «Лысіна Паца».**

**ВІЛЕЙКА. 21 верасня на беразе Віліі знайшлі камень, які з вялікай доляй упэўненасці можна ідэнтыфікаваць як камень з загадкавым імем "Лысіна Паца".**

З гэтым каменем звязана ці не самая папулярная і адначасова вясёлая тутэйшая легенда. Ніводзін гісторык і даследчык Вілейскага краю не пакінуў яго па-за ўвагай. Доўгі час лічылася, што камень знік. Толькі прыблізна паказвалі месца, дзе ён быў. Знайшоў яго архітэктар з Гродна Анатоль Капцюг, ураджэнец Вілейкі.

Калі Вілія была яшчэ суднаходнай, камень уяўляў пагрозу для чоўнаў і плытоў. Згодна з паданнем, вілейскі староста Пац высоўваўся праз акно свайго палаца, збудаванага насупраць каменя, і папярэджваў аб небяспецы.

Камень знайшлі за ангарам, што размясціўся каля ветэрынарнай аптэкі за мехмайстэрнямі. Ляжыць ён у межах старога рэчышча Віліі на парослым балотнай травой беразе ў пяці метрах ад вады. Самы верх каменя адпаліраваны вадой да бляску. Гэта, напэўна, паўплывала на яго назву. "Лысіна Паца" не ўражвае памерамі бачнай сваёй часткі. Але камень прыгожы, асабліва абліты вадой.



Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

**Камень "Лысіна Паца" доўга не маглі знайсці.**

Аўтар знаходкі Анатоль Капцюг выношвае ідэю добраўпарадкавання берага Віліі ў гэтым месцы. Бачыць нешта накшталт набярэжнай са сцежкамі, масткамі і астраўкамі, якой віляючае змогуць ганарыцца не менш, чым сівой легендай пра векапомны камень.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Бутэрброды з сырам па-венгерску

**350 г хлеба, 100 г масла, 100 г сыру, 1 лыжачка салодкага чырвонага перцу, 1 лыжачка каперсаў.** Масла і надзерты сыр размяшаць, пасаліць, паперчыць чырвоным салодкім перцам, дадаць дробна нарэзаныя каперсы. Атрыманай сумессю намазаць тонкія лустачкі батона і падсмажыць у духоўцы. На стол падаць гарачымі. З гэтых жа прадуктаў можна прыгатаваць іншыя бутэрброды: лустачкі батона падсмажыць, крыху намазаць маслам, пакласці зверху палоскі сыру таўшчынёй каля 0,5 см, пасыпаць чырвоным перцам і паставіць на кароткі час у духоўку.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Грыміць, але не блішчыць

Танцпляцоўка каля адной са здраўніц на Нарачы. Поўна народу. Сюды завітаў малады чалавек, каб пазнаёміцца (быў халасцяком) і разам правадзіць час. Якраз зайшла дзяўчына. Не будзем апісваць яе вартасці, бо адразу прыглянулася нашаму малодцу. Запрасіў на танец. Хацелася даведацца, як яе імя.

— Галя, — быў адказ.

З дынамікаў выбухнулі такія гукі, што заглушылі сказанае. З грудзей вырвалася:

— Прыгожае імя Валя.

Дзяўчына пакруціла галавой і паўтарыла сваё імя. Хлопец зноў не пачуў, бо голас спевака выводзіў ля-ля, якое глушыла наваколле, несласся па хвалях Нарачы.

Пасаромеўся юнак зноў перапытаць імя. Дзяўчына палічыла, што яе партнёр па танцы глухаваты. А шкада, такі прывабны, усмешлівы, ды вось добра не чуе.

Не даведаўшыся імя, хлопец не асмеліўся незнаёмку запрасіць на наступны танец. Стаяў і глядзеў на натоўп, які гэтым разам весяліўся, як кажуць, на ўсю катушку. Хто прытоптваў, хто круціў тулавам. Хто з кім танцуе, не разбярэш.

Аб'явілі белы танец, але тая прыгажуня не запрасіла хлопца. Наогул, нікога. Стаяла і сумавала. Зачасна пакінула пляцоўку.

Хлопцу ўсю ноч снілася незнаёмка. Назаўтра на пляжы ён рашуча падышоў да дзяўчыны, назваў сваё імя і папрасіў прабачэння, што не пачуў яе з-за моцнай музыкі. Галя ці Валя?

Больш на танцпляцоўку яны не хадзілі. Ім вечарамі спявалі нарачанскія хвалі, вецер у прыбярэжных соснах нашэптваў такія словы, якія былі сугучныя словам, што мроіліся ў галаве маладых людзей.

Кажуць, што ўсё напісанае няпраўда? А вы былі на танцпляцоўках на нарачанскім узбярэжжы ў Купе? Аглухнуць можна ад гукаў музыкі. Не да знаёмства маладым людзям падчас танцаў.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**27 верасня**
Праваслаўныя: УЗВІЖАННЕ (Узвышэнне Крыжа Гасподняга).
Каталіцкія: Вінцэнты, Дамяна, Космы.

**28 верасня**
Праваслаўныя: Акакія, Багдана, Іосіфа, Максіма, Мікіты, Парфірыя, Сцяпана, Фядота.
Каталіцкія: Вацлава, Марка.

**29 верасня**
Праваслаўныя: Людмілы, Віктара, Дарафея, Іосіфа, Ісака, Купрыяна.
Каталіцкія: Міхаліны, Міхала.

**30 верасня**
Праваслаўныя: Веры, Любові, Надзеі, Соф'і, Фядоцці, Зіновія, Ілы, Ніла.
Каталіцкія: Соф'і, Гераніма.

**1 кастрычніка**
Праваслаўныя: Арыядны, Ірыны, Соф'і, Яўмена.
Каталіцкія: Данугы, Тэрэзы, Рэмігіуша.

**2 кастрычніка**
Праваслаўныя: Давыда, Засімы, Ігара, Канстанціна, Савація, Трафіма, Фёдара.
Каталіцкія: Дзіяніза, Тэафіля.

**3 кастрычніка**
Праваслаўныя: Васы, Агапіта, Алега, Астапа, Міхаіла, Фёдара.
Каталіцкія: Тэрэзы, Герарда, Яна.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Правільны адказ на мінулае заданне такі – фірма займаецца рамонтам і тэхнічным абслугоўваннем аўтамабіляў, якія зроблены ў гарадах, што ўказаны на рэкламным шчыце.

Віншую Андрэя і Ірыну Цітовых, Святлану Талайку, Сяргея Ярука, Яўгена Дзюндзіна і Людмілу Ляшчэвіч і запрашаю іх у рэдакцыю па білеты ў кіно.

Наступнае заданне чытайце праз нумар – прыйшоў час адпачыць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Кінатэатр «Радзіма»

**27-29 верасня**

**"Зорныя войны: эпізод II "Атака кланаў"**, ЗША, 2 серыі – у 16.00, 18.30 і 21.00.

**30 верасня-6 кастрычніка**

**"Апрэль"**, Расія, баявік – у 19.30 і 21.10.

**"Штучны розум"**, ЗША – у 17.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**

29 верасня – **"Клякса на казцы"**, Чэхія – у 13.00.

2-і паверх, БАР. У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – дыскатэка. Для падлеткаў – у суботу і нядзелю ў 17.00 і 19.30.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.



### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 39** рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ АЛКАГОЛЬ

## Выцвярэзнікі не адчыняць

**МАЛАДЗЕЧНА. З першага мая рашэннем Мінаблвыканкома зачынілі ўсе выцвярэзнікі ў вобласці. З надыходам халадоў абвастрылася пытанне, што рабіць з пастаяннымі "кліентамі" выцвярэзнікаў.**

Начальнік Маладзечанскага ГРАУС **Віктар Марозаў** зазначыў, што рашэнне аб закрыцці гэтых устаноў прынялі на абласным узроўні. Вырашаць праблему будуць па-рознаму: адных забіраць у міліцыю, другіх дастаўляць дадому, трэціх — у бальніцу. Мясцовыя ўлады не маюць права самастойна іх зноў адчыніць.

Віктар Марозаў сказаў, што выцвярэзнікі адносяцца да Міністэрства аховы здароўя, якое павінна вырашаць гэтае пытанне.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці грашыце чаркай?



**Аляксандр Сінкевіч, школьнік, Смаргонь:**
— Я алкаголь увогуле не ўжываю. І, сказаць па праўдзе, нават не хачу каштаваць.



**Тапера Міхаіл, электрык, Смаргонь:**
— Я ўжо даўно не быў у Смаргоні. І цяпер пры сустрэчы з маімі сябрамі даводзіцца па традыцыі выпіваць. Гэта неяк расслабляе.



**Вольга Більдзюг, студэнтка, Смаргонь:**
— Я не п'ю. Спачатку не піла, бо не хацела. А цяпер мне хочацца выдзяляцца сярод іншых. Для мяне гэта ўжо прынцып.



**Аляксандр Гулак, участковы педыятр, Маладзечна:**
— У мяне язва, таму мне нельга піць. Максімум, што я сабе дазваляю, — бутэльку піва пры сустрэчы з сябрамі.



**Іван Сарокін, супрацоўнік вагоннага дэпо, Маладзечна:**
— Я п'ю кожны дзень. Бо такі від адпачынку пасля вёскі. Так адпачнеш – і можна ісці на работу.



**Вольга Шлямпо, вучаніца, Смаргонь:**
— Майму сябру, калі ён быў выпіўшы, выбілі зуб. Таму я засцерагаюся ўжываць алкаголь.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Мікалай ХАДАСЕВІЧ, Алег ГАРУНОВІЧ.**

## Гараскоп 30 верасня – 6 кастрычніка



**Авен** (21.03–20.04)

Вы выявіце супярэчнасць паміж вашымі задумамі і рэальным іх увасабленнем. Магчыма паступленне дзелавых прапаноў, у якіх няма ніякіх адносін да рэальнага жыцця. Праявіце асцярожнасць. Непаразуменне будзе ўладарыць і на асабістым фронце: вам можа здасца, што ваш партнёр праяўляе залішнюю самастойнасць.



**Цялец** (21.04–21.05)

Увесь перыяд – перапады настрою, нестабільныя эмоцыі і нежаданне спраўляцца з сабой. Ад гэтага – і дробныя непрыемнасці на рабоце. Асабліва цяжка будзе Цяльцам-начальнікам, якія прыдзіркамі могуць замучыць падначаленых. Калі вас запросяць у госці, пастарайцеся адкласці ўсе справы і пасядзець гадзіну-другую ў прыемнай кампаніі.



**Блізняты** (22.05–21.06)

У вас з'явіцца магчымасць з іншага боку ўбачыць і ацаніць тых людзей, што побач з вамі да цяперашняга часу. Вы, бывае, лёгка разрываеце адносіны і сувязі, якімі трэба было б даражыць. Вось і наступае час "расплаты": вы можаце ўбачыць, што згубілі нешта большае і значнае, а набылі толькі імгненнае задавальненне.



**Рак** (22.06–23.07)

Вы адчуеце набліжэнне радыкальных перамен, і, магчыма, вельмі расхвалюецеся. Магчыма паездка і шмат дзелавых сустрэч, на якіх вы можаце вызначыцца новымі ідэямі і прапановамі. Гэтым вы заваюеце нямала сімпатый і набудзеце паклоннікаў. А невялікія "кішэнныя" грошы, якія з'явяцца нечакана, патрацьце на сябе.



**Леў** (24.07–23.08)

Даём параду сур'ёзна аднесціся да праходжання інтэнсіўнага курса развіцця камунікацыйных навыкаў. Вы "закамандаваліся", што можа знізіць эфектыўнасць і аддачу ў вашай рабоце. Магчыма, многія з партнёраў адыдуць ад вас і будуць шукаць вам замену. Аблегчыць сітуацыю "вакууму" паступленне фінансаў.



**Дзева** (24.08–23.09)

Перыяд добры для інвестыцый і пакупак каштоўных папер – гэта можа прынесці добрыя вынікі. 2 кастрычніка магчымы непаразуменні ў сям'і ці з сябрамі: хутчэй за ўсё яны прэтэндуюць на большую ўвагу і клопат з вашага боку. Незамужнія Дзевы маленькімі крокамі набліжаюцца да шлюбу. Праўда, узважваць усе "за" і "супраць" яны яшчэ будуць доўга.



**Шалі** (24.09–23.10)

У гэты перыяд вам прыйдзецца разбірацца з адным даволі-такі заблытаным пытаннем, хутчэй за ўсё, з вашай няправільнай ацэнкай сітуацыі: вы пераацанілі ўласныя сілы і не змаглі справіцца з абавязкамі. Гэта не тычыцца дам-Шаляў, якія, насупраць, будуць акружаны ўвагай і падтрымкай.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Укладвайце энергію вашага розуму ў праекты, якія вас цікавяць асабіста. Нават калі гэта не бізнес, а інтымная сфера, вы можаце лёгка дабіцца поспеху, калі прадпрымеце новыя і нестандартныя крокі. Уважліва аднясіцеся да новых знаёмстваў (ці даўно забытых старых). Наогул, людзі ў гэты перыяд будуць працаваць на вас.



**Стралец** (23.11–21.12)

Не прыслухоўвайцеся да плётак, ігнаруйце чуткі, больш давярайце інтуіцыі і ўласнаму меркаванню, чым асяроддзю, у якім знаходзіцеся. Пастарайцеся разумна размеркаваць час, каб многае паспець зрабіць. Напярэдадні шмат работы, якая можа прынесці дадатковы заробак. Магчымы непрыемнасці ў кагосьці з блізкіх.



**Казярог** (22.12–20.01)

Пільнай увагі патрабуюць вытворчыя справы, бо нешта не заладзіцца. "Машына", якая, як вам здавалася, запушчана назаўсёды, будзе дапускаць збоі. Асабліва гэта тычыцца кіраўнікоў сярэдняга і высокага ўзроўню. Прыйдзецца заняцца рэвізіяй і рамонтам, інакш усё можа спыніцца на нявызначаны час. Пазбягайце ўсялякіх разборак.



**Вадалей** (21.01–19.02)

У пачатку перыяду вас чакае неабгрунтаванае расчараванне. Магчыма, вы перажываеце з-за перавышэння "каштарысу" на ўсемагчымыя траты, і ў вас пачне прасыпацца "скупы рыцар". Але ўсё гэта не варта выедзенага яйца. Пастарайцеся сустрэцца з сябрамі і прыемнымі для вас людзьмі. А справы пасля 28 верасня пойдуць на лад.



**Рыбы** (20.02–20.03)

У вас будзе настальгія і ўспаміны пра нешта страчанае назаўсёды. Але пастарайцеся скінуць з сябе гэты настрой, перыяд можна назваць больш чым паспяховым. Магчымы вельмі цікавыя і перспектыўныя прафесійныя прапановы. Лёс вам можа падкінуць сапраўдны сюрпрыз, прычым без усялякіх двухсэнсоўнасцей.

■ АКЦЫІ

## Месячнік пажарнай бяспекі

**Паважаныя жыхары горада і раёна! З 1 кастрычніка па 1 лістапада ў рэгіёне праводзіцца месячнік пажарнай бяспекі.**

За прайшоўшы перыяд у Маладзечне і Маладзечанскім раёне адбылося 126 пажараў, на якіх загінула 11 чалавек. Поўны ўрон ад пажараў склаў больш за 155 мільёнаў рублёў. Самае страшнае, што агонь знішчае не толькі дабро, нажытае за доўгія гады, але і забірае чалавечыя жыцці. Акрамя гэтага, вялікая колькасць людзей атрымлівае траўмы і апёкі з-за неасцярожнага абыходжання з агнём.

Асноўнымі прычынамі пажараў з'яўляюцца: неасцярожнае абыходжанне з агнём – 47 пажараў, парушэнне правілаў устройства і эксплуатацыі электраабсталявання – 18, няспраўнасць пячнога ацяплення – 12, наўмысныя падпалы – 19. Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння пажараў, якія адбыліся з прычыны дзіцячага свавольства з агнём. За 2001 год такіх пажараў было 11, сёлета – 10.

Не пакідайце дзяцей без нагляду, не дазваляйце ім гуляць з запалкамі, сачыце за тым, як яны карыстаюцца газам і электрапрыборамі. Будзьце і самі асцярожныя пры абыходжанні з агнём, пры карыстанні электрапрыборамі і ацяпляльнымі прыборамі.

Выконвайце ўсе правілы пажарнай бяспекі, і ваша небяспечнасць будзе гарантаваная.

**Цэнтр навучання правілам пажарнай бяспекі Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9250 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№39 (388) 27.09.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 2735. Падпісана ў друк у 13.00 26.09.2002



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**


**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444